Пралетарыі ўсіх краеў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР
АДДЗЕЛ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ І ПРЫКЛАДНОЙ ЗООЛЁГІІ



ВЫПУСК № 1.

# НЕКАТОРЫЯ ЗЬВЕСТКІ АБ КАНЯВОДЗТВЕ
## Менскае, Мазырскае і Гомельскае акруг БССР

Праф. М. М. ПЕЛЕХАЎ

Белорусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР
ОТДЕЛ ЖИВОТНОВОДСТВА И ПРИКЛАДНОЙ ЗООЛОГИИ
ТРУДЫ ПО ЗООТЕХНИИ И ЗООТЕХНИЧЕСКОМУ ДЕЛУ БССР

НЕКОТОРЫЕ СВЕДЕНИЯ ПО КОНЕВОДСТВУ
МИНСКОГО, МОЗЫРСКОГО И ГОМЕЛЬСКОГО ОКРУГОВ БССР

Проф. Н. Н. ПЕЛЕХОВ

Belarussisches Institut für Wissenschaftliche Forschungen der Land-und Forst-Wirtschaft auf den Namen von W. I. Lenin beim Rate der Volkskommissare von der BSSR
ABTEILUNG FÜR VIEHZUCHT UND ANGEWAND-TE SOOLOGIE
ARBEITEN ÜBER ZOOTECHNII UND DAS ZOOTECHNISCHE VERSUCHSWESEN IN BELARUSSJ

EINIGE ANGABEN ÜBER DIE PFERDEZUCHT
IN DEN MINSKISCHEN, MOSYRSCHEN UND HOMELNSCHEN BEZIRKEN BSSR

[Prof. N. N. PELECHOFF

МЕНСК—MINSK
1929

Пралетарыі ўсіх краеў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

АДДЗЕЛ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ І ПРЫКЛАДНОЙ ЗООЛЁГІІ

ВЫПУСК № 1

# НЕКАТОРЫЯ ЗЬВЕСТКІ АБ КАНЯВОДЗТВЕ
## Менскае, Мазырскае і Гомельскае акруг БССР

Праф. М. М. ПЕЛЕХАЎ

Белорусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ ЖИВОТНОВОДСТВА И ПРИКЛАДНОЙ ЗООЛОГИИ

ТРУДЫ ПО ЗООТЕХНИИ И ЗООТЕХНИЧЕСКОМУ ДЕЛУ БССР

НЕКОТОРЫЕ СВЕДЕНИЯ ПО КОНЕВОДСТВУ МИНСКОГО, МОЗЫРСКОГО И ГОМЕЛЬСКОГО ОКРУГОВ БССР

Проф. Н. Н. ПЕЛЕХОВ

Belarussisches Institut für Wissenschaftliche Forschungen der Land-und Forst-Wirtschaft auf den Namen von W. I. Lenin beim Rate der Volkskommissare von der BSSR

ABTEILUNG FUR VIEHZUCHT UND ANGEWAND-TE SOOLOGIE

ARBEITEN UBER ZOOTECHNII UND DAS ZOOTECHNISCHE VERSUCHSWESEN IN BELARUSSJ

EINIGE ANGABEN ÜBER DIE PFERDEZUCHT IN DEN MINSKISCHEN, MOSYRSCHEN UND HOMELNSCHEN BEZIRKEN BSSR

Prof. N. N. PELECHOFF

МЕНСК—MIHSK
1929

# Некаторыя зьвесткі аб каняводзтве Менскае Мазырскае і Гомельскае акруг БССР.

(Па даных абсьледваньня каняводзтва НКЗ улетку 1927 г.)

Улетку 1927 году па заданьню і на сродкі НКЗ БССР было зроблена абсьледваньне каняводзтва трох акруг БССР. Абсьледваньне рабілася пад кіраўніцтвам і па праграме Інспэктара Каняводзтва С. В. Дзяканенка сіламі мясцовых, акруговых і раённых зоотэхнікаў, аграномаў і вэтэрынарных дактароў. Абсьледваньнем было абхоплена ў Менскай акрузе ў 7 раёнах 29 паселішчаў, у Мазырскай, таксама ў 7 раёнах,—42 паселішчы і ў Гомельскай, у 5 раёнах,—18 паселішчаў, прычым ва ўсіх раёнах сабрана было 1858 індывідуальных картак. Галоўнай мэтай абсьледваньня зьяўлялася зоотэхнічнае апісаньне конскага статку ўказаных раёнаў,—эканамічную характарыстыку каняўласьніцкіх гаспадарак меркавалася даць у самых агульных рысках, але і гэтая думка была выканана вельмі няпоўна і толькі ў 2-х акругах (па Мазырскай акрузе эканамічныя зьвесткі былі ўзяты толькі ў некалькіх адзінкавых выпадках),—з прычыны гэтага, ад скарыстаньня эканамічных даных, як вельмі разьядналых і няпоўных, прыйшлося адмовіцца.

Індывідуальныя конскія карткі, у якіх знаходзяцца даныя па 10 прамерах, запаўняліся на ўсе родавыя групы, г. ё. на кабыл, жарабкаў і мэрынаў, таксама як і на ўсе ўзрослыя групы, пачынаючы з жарабят да аднаго году і канчаючы жывёламі старэй 17 гадоў. Акрамя таго, абсьледваньню падлягалі ня толькі коні мясцовае пароды, але і мэтысы—мясцовых коняй з цяжкавозамі і мясцовых з рысакамі. З прычыны гэтага, ня гледзячы на досыць значны агульны лік картак (1858), па некаторых асобных групах маецца такая малая колькасьць картак (іншы раз па 2-3 карткі), што аб якіх-небудзь вывадах, на падставе сабраных даных, ня можна і гаварыць. Пагэтаму з усяго лічбовага матар'ялу, які маецца, мы спыніліся толькі на тых частках яго, якія па свайму аб'ёму могуць мець некаторае значэньне, калі ня дзеля ясных вывадаў, дык хаця б дзеля арыентыроўкі пры будучых абсьледваньнях. Указанымі адзнакамі лічбовага матар'ялу тлумачыцца і несыстэматычнасьць, адрыўкавасьць апісаньня каняводзтва. Прызнаючы ўсе недахопы гэтае работы, мы, аднак, лічым карысным агалашэньне атрыманых намі даных з прычыны таго, што па характарыстыцы каняводзтва БССР амаль што зусім няма ніякіх даных, а пагэтаму зьбіраньне хаця б і недасканальнага па колькасьці матар'ялу павінна быць пажадана.

**Менская акруга.** Абсьледваныя паселішчы па раёнах акругі разьмяркоўваліся так:

Табліца 1.

| Назва раёнаў | Лік паселішчаў |
|---|---|
| Заслаўскі . . . . . | 5 |
| Самахвалавіцкі . . . | 5 |
| Койданаўскі . . . . | 4 |
| Узьдзенскі . . . . . | 4 |
| Сьмілавіцкі . . . . | 4 |
| Смалявіцкі . . . . . | 4 |
| Барысаўскі . . . . . | 3 |
| Усяго . . . | 29 |

Лік індывідуальных картак на акругу 748, лік паселішчных адпавядае колькасьці паселішчаў (падворныя карткі не складаліся).

З параённага супастаўленьня родавых груп статка можна зрабіць вывад, што ў адносінах разьвядзеньня коняй найменш выгодныя суадносіны паміж жарабкамі і кабыламі маюцца ў Узьдзенскім раёне, дзе на аднаго жарабка прыпадае 29 кабыл; па другіх раёнах, па якіх маюцца даныя, кабыл на аднаго жарабка прыпадае ужо менш. Найменшая колькасьць кабыл на аднаго жарабка прыпадае ў Самахвалавіцкім раёне—7,5 каб., г. з. удвое менш таго, што ў лепшым выпадку раіцца даваць на аднаго жарабка пры вольнай злучцы. Тлумачыцца гэта тым, што ў Самахвалавіцкім раёне ў вельмі вялікай колькасьці жарабкі вырасьліваюцца на продаж. Адпаведча ж гэтаму разьмяркоўваецца і колькасьць маладняку.—так, у 4-х паселішчах Самахвалавіцкага раёну маладняку (да 3-х гадовага ўзросту) было зарэгістравана 377 галоў на 286 дарослых кабыл, пры агульнай колькасьці ўсіх дарослых коняй у 572 галавы. У абсьледваных жа паселішчах Узьдзенскага раёну мы маем на 320 дарослых кабыл 226 галоў маладняку ўказанага ўзросту. Калі зьвярнуцца да стасункаў паміж колькасьцямі кабыл і мэрынаў, дык выявіцца, што ў 4-х паселішчах Самахвалавіцкага раёну на 286 кабыл прыпадае 248 мэрынаў. Калі аб тэндэнцыях да разьвядзеньня коняй судзіць па гэтаму стасунку, дык параўнаўча нядобра стаіць справа ў Сьмілавіцкім раёне, у 2-х паселішчах якога на 68 дарослых кабыл было зарэгістравана 178 мэрынаў; Узьдзенскі раён стаіць у гэтых адносінах некалькі вышэй Сьмілавіцкага,—у яго паселішчах на 320 кабыл маецца 532 мэрына; у сярэднім жа па 14 паселішчах акругі, па якіх мы маем даныя, на 1182 кабылы прыпадае 1386 мэрынаў,—стасунак, які ўказвае наогул на пэўную тэндэнцыю да разьвядзеньня коняй. Аднак колькасьць конскага маладняка сьведчыць аб тым, што кабылы ў Менскай акрузе далёка ня поўна скарыстоўваюцца дзеля мэт разьвядзеньня, толькі ў Самахвалавіцкім раёне, як мы ўказвалі вышэй, яны маюць у гэтых адносінах дастаткова поўную нагрузку. Зьвесткі аб колькасьці конскага маладняка, хаця яны маюцца не па ўсіх абсьледваных паселішчах, вельмі цікавыя. Суадносіны паміж дзьвюма групамі маладняка—да 1 году і ад 1-га да 3-х гадоў, паказваюць, што за апошні 26/27 год імкненьне сялян да разьвядзеньня коняй зьнізілася, параўнальна з папярэднімі гадамі, так што па раёнах мы маем:

Табліца 2.

| Назва раёнаў | Конскі маладняк | | Лік паселішч |
|---|---|---|---|
| | да 1 году | ад 1-го да 3-х г. | |
| Самахвалавіцкі . . . | 120 | 257 | 4 |
| Койданаўскі . . . . | 50 | 200 | 1 |
| Узьдзенскі . . . . | 35 | 191 | 2 |
| Сьмілавіцкі . . . . | 14 | 24 | 2 |
| Барысаўскі . . . . | 4 | 13 | 1 |

В. Благавешчанскі ўказваў[1]), што ў 1922 годзе ў БССР меўся большы %% сысуноў, чымся іх было ў даваенныя часы, што, магчыма, трэба тлумачыць узмацненьнем коняразьвядзеньня, з прычыны зьмяншэньня прытоку ў БССР коняй з РСФСР, дзе конскі статак за час вайны моцна зьменшыўся. Калі гэта так, дык узмоцненая тэндэнцыя да коняразьвядзеньня ў сялян БССР павінна разглядацца, як зьявішча часовае, таму што па меры аднаўленьня конскага запасу ў РСФСР, прытока з яе танных коняй у БССР павінна зноў распачацца, а разам з тым павінен упасьці і стымул да разьвядзеньня коняй у беларускага сялянства, для якога, судзячы па структуры яго гаспадаркі, выхаваньне конскага маладняка ня можа быць прыбыткоўным. Паказаныя ў табліцы 2-й лічбы па 10-ці паселішчах Менскае акругі мы маем права разглядаць, як довад існаваньня ўказанага працэсу.

Аб значнай гаспадарчай ролі гадоўлі коняй за апошнія гады сьведчаць і наступныя пасёлкавыя даныя розных раёнаў:

Табліца 3

| Назва раёнаў | Лік паселішч, у якіх карыстаюцца коньмі | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Куплёнымі | Выгадаванымі | Куплёнымі і выгадаванымі | Няма зьвестак | Усяго |
| Заслаўскі . . . . | 1 | 1 | 2 | 1 | 5 |
| Самахвалавіцкі . . . | — | 3 | 2 | — | 5 |
| Койданаўскі . . . . | — | — | 4 | — | 4 |
| Узьдзенскі . . . . | 1 | 3 | — | — | 4 |
| Сьмілавіцкі . . . . | — | 1 | 3 | — | 4 |
| Смалявіцкі . . . . | — | 4 | — | — | 4 |
| Барысаўскі . . . . | — | 2 | 1 | — | 3 |
| Усяго . . . | 2 | 14 | 12 | 1 | 29 |

Аб пахаджэньні коняй рознага ўзросту па ўсёй акрузе дае нам паняцьце падлік даных з індывідуальных картак, як гэта відаць з табліц 4 і 5.

---

[1]) Каняводзтва СССР. В. Благавешчанскі.

Табл 4. Кабылы мясцовае пароды

| Узрост | Выгадаваныя | Куплёныя у сваім рынку | На рынку на старане |
|---|---|---|---|
| 1 год | 14 | 10 | — |
| 2 „ | 29 | 25 | — |
| 3 „ | 46 | 20 | — |
| 4—16 | 137 | 151 | 3 |
| 17 г. і больш | 4 | 16 | — |
| Усяго . | 230 | 222 | 3 |

Табл. 5. Жарабкі мяцовае пароды

| Узрост | Выгадаваныя | Куплёныя у сваім рынку | На рынку на старане |
|---|---|---|---|
| 1 год | 18 | 17 | — |
| 2 „ | 24 | 32 | — |
| 3 „ | 6 | 15 | — |
| 4—16 | 5 | 15 | — |
| 17 г. і больш | — | — | — |
| Усяго . | 53 | 79 | — |

З гэтых даных можна бачыць, што гадоўля коняй вельмі пашырана ў Менскай акрузе, акрамя таго відаць, што жарабкоў насельніцтва купляе часьцей, чымся кабыл. Яшчэ больш выразныя даныя атрымліваюцца пры дапытваньні ў насельніцтва аб мэтах гадоўлі коняй: адносна кабыл мясцовае пароды ў 240 выпадках было сказана, што кабылы разводзяцца дзеля рамонту ўласнага статка, і ў 60 выпадках—дзеля продажу і, акрамя таго, у 13 выпадках мэтаю разьвядзеньня ўказана было і тое і другое. Мэтаю разьвядзеньня мясцовае пароды жарабкоў у 84 выпадках быў указаны рамонт і ў 11 выпадках—продаж, а ў 2-х выпадках і тое і другое. Як бачым, і адносна кабыл, і адносна жарабкоў, галоўнай мэтай разьвядзеньня зьяўляецца рамонт, прычым процант жарабкоў, якія вырасьліваюцца дзеля рамонту, значна вышэй, чымся такі ж процант кабыл. Процант жарабкоў, якія вырасьліваюцца на продаж, значна ніжэй проценту такіх самых кабыл (%% да ліку адпаведнае групы),—у сувязі з гэтым, зьяўляецца незразумелай вялікая колькасьць жарабкоў па акрузе ў параўнаньні з колькасьцю кабыл, аб чым мы гаварылі вышэй. Застаецца думаць, што спосаб скарыстаньня жарабкоў вельмі нерацыянальны, што і выклікае падвышэньне іх ліку больш нормы; даныя, якія датычуцца злучкі і аб якіх мы будзем гаварыць ніжэй, пацьвердзяць гэта. Ва ўсякім выпадку, з прыведзеных табліц 4 і 5 ясна, што больш паловы маючыхся ў насельніцтва жарабкоў куплёныя таксама, як і палова кабыл. Гэта паказвае, што ролю мясцовага разьвядзеньня коняй ня трэба пераўвялічваць. Насельніцтва акругі вельмі мала цэніць, як вытворнікаў, жарабкоў мясцовае пароды,—гэта відаць з таго, что, ня гледзячы на значную колькасьць такіх жарабкоў, у 22-х паселішчах з 29-ці было ўказана на недахват завадзкіх вытворнікаў. Як прыемнае зьявішча, трэба адзначыць тое, што ў Менскай акрузе, як здаецца, ужо няма паселішчаў, дзе карысталіся-б выключна вытворнікамі--палявікамі, з 29 паселішчаў, якія былі абсьледваны, не знайшлося ніводнага такога паселішча. Адначасова і палявікамі і племяннымі жарабкамі карыстаюцца 9 паселішчаў, а 20 паселішчаў карыстаюцца выключна племяннымі вытворнікамі. (Племяннымі вытворнікамі насельніцтва заве палепшаных і завадзкіх жарабкоў, палявікамі—жарабкоў мясцовых непалепшаных, якія пасуцца разам з кабыламі). Вельмі цікава, што з апошніх 20 паселішчаў у 14-ці карыстаюцца прыватна-ўласьніцкімі жарабкамі і толькі ў 6 паселішчах завадзкія жарабкі належаць Дзяржстайні і саўгасам. Апошняе зьявішча сьведчыць, што у справе масавага палепшаньня сялянскага каняводзтва ў Менскай акрузе, прыватнаўласьніцкім гаспадаркам належыць пакуль яшчэ галоўная роля.

Трэба думаць, што гэта гаспадаркі найбольш заможныя. Калі гэта праўда, дык указанае зьявішча трэба ўзяць пад увагу пры правядзеньні падатковае палітыкі ў вёсцы. Гэта палітыка павінна быць так пабудована, каб яна не вяла да зьмяншэньня ліку завадзкіх вытворнікаў у насельніцтва, таму што гэтае зьмяншэньне, пры недахваце завадзкіх вытворнікаў у саўгасах, перш за ўсё ўдарыць па асноўнай масе сялянства, г. з. па серадняцкіх і бядняцкіх гаспадарках. Нельга не пашкадаваць, што ў пасёлкавых блянках толькі ў трох паселішчах указаны сярэднія цэны за злучку з прыватнаўласьніцкімі жарабкамі, гэтыя цэны наступныя: 4,5—5,5 і 6,5 руб. Не пашкодзіць адзначыць, што ў Сібіры прыватным асобам плацяць за злучку кабылы ў сярэднім 2,91 руб.[1]), у Варонескай жа губэрні злучка з няўхваленымі жарабкамі аплачваецца ў сярэднім у 3,8 руб., а злучка з ухваленымі жарабкамі—у 6,6 руб.[2]). Плата за злучку ў Менскай акрузе набліжаецца да апошняе лічбы. (Даныя па Сібіры і Варонескай губэрні адносяцца да 1926 г.)

На запытаньне аб узросьце, у якім кабылы часьцей усяго ідуць у злучку, у 2-х паселішчах было адказана, што такім узростам зьяўляецца ўзрост у 2,5 году, у 18 ці паселішчах—3-4 гады і ў 8-мі паселішчах указаны быў узрост старэй 4 год. У Сібіры ў першую злучку кабылы ідуць ва ўзросьце прыблізна 2,8 гадоў, а ў Варонескай губ.—ва ўзросьце 3-х гадоў. Менскі конь у гэтых адносінах, значыцца, позьніцца. Калі да гэтага дадаць, што больш паловы кабыл пачынаюць працаваць паміж 2-3 гадамі, дык асноўныя адзнакі ўкладу жыцьця кабыл у Менскай акрузе будуць выяўлены.

Табліца 6-ая паказвае параёнавую розьніцу ў рэжыме кабыл, а табл. 7—тое самае ў рэжыме жарабкоў (па індывідуальных картках).

Табл. 6. Кабылы мясцовае пароды паступаюць:

| Раёны / Узрост | У працу | | | | | | | | У злучку | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Заслаўск. | Самахв. | Койдан. | Узьдзен. | Сьмілав. | Смалев. | Барыс. | Па ўсёй акрузе | Заслаўск. | Самахв. | Койдан. | Узьдзен. | Сьмілав. | Смалев. | Барыс. | Па ўсёй акрузе |
| Да 2-х гадоў | 3 | 3 | 2 | 2 | — | 6 | — | 16 | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 |
| 2-3 г. | 45 | 51 | 41 | 40 | 23 | 28 | 7 | 238 | — | 3 | 4 | 7 | 5 | 8 | — | 27 |
| 3-4 г. | 13 | 13 | 3 | 16 | 22 | 16 | 30 | 113 | 16 | 49 | 33 | 43 | 19 | 26 | 26 | 212 |
| 4 г. і старэй | 2 | — | — | — | 2 | — | 12 | 16 | 37 | 20 | 7 | — | 14 | – | 23 | 101 |
| Ня ўказана | 18 | 8 | 20 | 1 | 27 | 19 | 11 | 104 | 29 | 12 | 22 | 9 | 36 | 36 | 11 | 155 |

Табл. 7. Жарабкі мясцовае пароды паступаюць:

| Раёны / Узрост | У працу | | | | | | | | У злучку | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Заслаўск. | Самахв. | Койдан. | Узьдзен. | Сьмілав. | Смалев. | Барыс. | Па ўсёй акрузе | Заслаўск. | Самахв. | Койдан. | Узьдзен. | Сьмілав. | Смалев. | Барыс. | Па ўсёй акрузе |
| Да 2-х гадоў | 1 | — | 1 | 1 | — | — | — | 3 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2-3 г. | 14 | 11 | 14 | 13 | 5 | 7 | 1 | 65 | — | 1 | 1 | 2 | — | — | — | 4 |
| 3-4 г. | 10 | 3 | 1 | 1 | 6 | — | 6 | 27 | 7 | 9 | 12 | 12 | 5 | 1 | 7 | 53 |
| Старэй 4-х | 1 | — | 1 | 1 | — | — | 3 | 6 | 9 | 2 | — | 1 | 1 | 2 | 3 | 18 |
| Ня ўказана | 3 | 3 | — | 2 | 8 | 15 | 7 | 38 | 13 | 5 | 4 | 3 | 14 | 19 | 7 | 65 |

[1]) „Дасьледваньні па каняводзтву Сібірскага краю". С. І. Лантух. стар. 188.
[2]) „Коневодственные районы Воронежской губ.". С. В. Афанасьев. (Труды Г.И.О.А. Вып. 21, стар. 38).

Як відаць з табліцы 7, $^2/_3$ агульнага ліку жарабкоў паступаюць у працу да 3-х гадавага ўзросту, у злучку ж жарабкі ідуць большай часткай у узросьце паміж 3 і 4 гадамі (да $^3/_4$ агульнага ліку), г. ё. большая частка жарабкоў пачынае злучацца ў тым жа ўзросьце, як і большая частка кабыл, у працу яны таксама ідуць у адным і тым жа ўзросьце.

Адносна неабходнага ліку пакрыцьцяў у 2-х паселішчах указалі, што дзеля забясьпечаньня жарэбасьці, часьцей усяго патрабуецца толькі адно пакрыцьцё, у 11 паселішчах лічаць, што кабыл неабходна пакрываць ня менш 2-х разоў, і ў 12 паселішчах—ня менш 3-х разоў, а ў 1 паселішчы нават больш 3-х разоў. Прычыны такое вялікае розьніцы ў паказаньнях насельніцтва нам незразумелы. Ва ўсякім выпадку, верна толькі адно: недастатковасьць ведаў насельніцтва па гэтаму пытаньню прыводзіць да відавочнае растраты сіл жарабкоў.

Што кранаецца найбольш распаўсюджанае пары злучкі, дык дзеля 20 паселішчаў такого пароюю зьяўляецца вясна і дзеля 7 паселішчаў—вясна і лета. Працяжнасьць злучнага пэрыяду бывае розная, у большасьці паселішчаў яна моцна расцягнута, як можна відаць з наступнае табліцы:

Табліца 8

| Працяжнасьць злучнага пэрыяду ў месяцах | 1 | 1—1,5 | 1,5—2 | 2—3 | больш 3-х |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік паселішчаў | 3 | 3 | 5 | 9 | 7 |

На вельмі цікавае пытаньне аб тым, якую пароду коняй насельніцтва лічыць найбольш адпаведнай дзеля палепшаньня мясцовага каня, сталага адказу атрымаць не ўдалося, толькі ў 3-х паселішчах было ўказана, што такою пародаю зьяўляецца рысак. У 4-х з 5-ці паселішчаў Самахвалавіцкага раёну, найбольш выдатнага па каняводзтву, было ўказана, што дзеля мясцовых патрэб і рынку неабходным зьяўляецца конь мяшанае вытворчасьці, аднолькава здатны і да цяжкае працы і да бегу. У межах акругі, у сялян аднолькава часта сустракаюцца жарабкі культурных парод і лёгкага і цяжкага тыпу, што сьведчыць, што яны ў роўнай меры карыстаюцца попытам з боку насельніцтва. На прамое запытаньне, якія коні карыстаюцца найбольшым попытам сярод насельніцтва, у 25-ці паселішчах адказалі, што найбольшы попыт маюць рабочыя коні, у 2-х паселішчах указалі на мясцовых коняй, у адным паселішчы былі названы рысакі і яшчэ ў адным—цяжкавозы. Што насельніцтва адчувае неабходнасьць палепшаньня пароды сваіх коняй, можна відаць з таго, што аб гэтым было заяўлена ў 13 паселішчах, але якім шляхам ісьці да гэтага палепшаньня насельніцтва сабе, здаецца, уявіць ня можа.

У справе палепшаньня каня вельмі вялікае значэньне мае ня толькі парода, але і тэхніка гадоўлі каня. Наколькі гэта тэхніка ў Менскай акрузе зьяўляецца здавальняючай? Вельмі важнае значэньне ў гэтых адносінах мае працяжнасьць сысуновага пэрыяду. Гэта працяжнасьць зьяўляецца тутака зусім здавальняючай, што можна бачыць з табл. 9.

Табліца 9. Працяжнасьць сысуновага пэрыяду ў месяцах

| Лік месяцаў | Да 5 | 5—6 | 6—7 | 7—8 | 8—9 | Больш 9 | Ня ўказана | — |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік паселішчаў | 3 | 10 | 6 | 6 | 2 | 1 | 1 | 29 |

Як відаць з гэтае табліцы, большая палова жарабятаў сысуць маці звыш шасьці месяцаў, што, бязумоўна, павінна добра адбівацца на разьвіцьці жарабяці[1]).

Адмоўным момантам у справе разьвядзеньня коняй зьяўляецца досыць раньняе скарыстаньне жывёлы дзеля працы. Табліцы 6 і 7 ўказваюць, што $^2/_3$ жарабкоў і кабыл ідуць у працу да дасягненьня 3-х гадовага ўзросту. Праўда, у некаторых раёнах РСФСР працуюць нават і на аднагодках, як аб гэтым сьведчаць даныя ўказанага ўжо намі Варонескага абсьледваньня каняводзтва, але тамака, у Варонескай губ., конь характарызуецца большай дозай крыві цяжкавозаў, акрамя таго, у Варонескай губ. адчуваецца недахоп у працоўнай конскай моцы; у нас, у БССР няма такіх умоў, а пагэтаму і няма, як здавалася б, вялікай патрэбы дзеля такога раньняга скарыстаньня працоўнае моцы каня. Неабходна заўважыць, што беларускі конь позна вырастае, ён вырастае толькі пасьля 4-х гадоў, пагэтаму ранейшае скарыстаньне яго дзеля працы ня можа не затрымаць яго разьвіцьця. У гэтых адносінах коні БССР набліжаюцца да коняй Сібіры, якія ў лёгкую працу паступаюць у 2,8 г., а ў цяжкую ў 3,8[2]).

Бязумоўным мінусам зьяўляецца досыць часты папас жарэбчыкаў старэйшага ўзросту (звыш 1 году і да 3-х гадоў) разам з дарослымі коньмі, такі спосаб выпасу быў указаны ў 13-ці паселішчах з 26-ці. Як паказвае табліца 10, гэты спосаб выпасу ўжываецца ў асобных паселішчах усіх раёнаў, акрамя Самахвалавіцкага, які і ў гэтых адносінах, як і ў шмат іншых, зьяўляецца па разьвядзеньню коняй першым.

Табліца 10. Лік паселішчаў, у якіх жарэбчыкі пасьцяцца:

| Назва раёнаў | Разам з усімі коньмі | Асобна ад астатніх коняй, пачынаючы з узросту | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Ад 1-го году да 2 гад. | Ад 2-х да 3-х гад. | Старэй 3-х гадоў | Ня ўказана | Усяго паселішчаў |
| Заслаўскі . . . . | 3 | — | 1 | — | 1 | 5 |
| Самахвалавіцкі . . . | — | 3 | 1 | — | 1 | 5 |
| Койданаўскі . . . . | 2 | 2 | — | — | — | 4 |
| Узьдзенскі . . . . | 2 | 1 | 1 | — | — | 4 |
| Сьмілавіцкі . . . . | 2 | — | 1 | 1 | — | 4 |
| Смалевіцкі . . . . | 2 | 2 | — | — | — | 4 |
| Барысаўскі . . . . | 2 | — | — | — | 1 | 3 |
| Усяго паселішч. . | 13 | 8 | 4 | 1 | 3 | 29 |

Фізычнае разьвіцьцё каня, а значыцца, і гаспадарчая яго магутнасьць, азначаецца ў значнай меры характарам кармленьня каня, асабліва ў пэрыяд яго росту. Якое-ж кармленьне каня ў дасьледваных раёнах? Перш за ўсё мы павінны адзначыць, што да паказаньняў гаспадароў, па гэтаму пытаньню нельга адносіцца вельмі даверліва: у некаторых выпадках маюцца яўна надмерныя паказаньні, асабліва адносна порцыі

[1]) Па кн. С. Б. Урусаву нармальны пэрыяд ссаньня дзеля жарабяці раўняецца 150-160 дням. (Каняводзтва).

[2]) Указаная раней праца С. І. Лантуха, стар. 193.

моцных кормаў дзеля маладняка, што тлумачыцца жаданьнем гаспадароў, пераўвялічыць выдаткі на выхаваньне каня. Трэба адзначыць, што надмерныя паказаньні кармовых порцыяў назіраліся і пры іншых абсьледваньнях, якія рабіліся ў той жа пэрыяд[1]). Гэта зьявішча зьмяншае, вядома, каштоўнасьць матар'ялу, але ня зьнішчае яе зусім; справа ў тым, што порцыі грубых кормаў указаны большай часткай адпаведна сапраўднасьці. акрамя таго, нават і пры наяўнасьці пераўвялічэньняў, магчыма параўнаўчая ацэнка кармленьня па раёнах.

З прычыны таго, што ў розным узросьце ў розных раёнах вага каня розная, мы, пры параўнаньні даных, перакладалі кармовыя рацыёны на 1000 хунт. жывое вагі каня. Вынік па ўсёй акрузе можа быць выяўлены ў наступнай табліцы:

Табліца 11. На 1000 хунт. жыв. вагі каня у зімовы пэрыяд па акрузе ў сярэднім за суткі прыпадае:

| Узрост | Колькасьць кармовых адзінак дзеля | |
|---|---|---|
| | Кабыл | Жарабкоў |
| 1 год | 15,5 | 16,0 |
| 2 „ | 15,5 | 13,0 |
| 3 „ | 14,3 | 14,5 |
| 4—16 гад. | 14,3 | 14,3 |
| 17 г. і старэй | 14,3 | — |

Табліца 11а. Характарыстыка сярэдніх рацыёнаў кабыл мясцовае пароды (4—16 гад.) у Менскай акрузе

| Назва раёнаў і лік назіраньняў | У гаспадарках, якія маюць да 3-х дзес. пасеву | | У гаспадарках, якія маюць ад 3-х да 7-мі дзесяц. пасеву | | У гаспадарках, якія маюць звыш 7 дзесяц. пасеву | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 1000 хунт. жывое вагі | | На 1000 хунт. жывое вагі | | На 1000 хунт. жывое вагі | |
| | Кармов. адзін | Пратэінавы стасунак | Кармов. адзін | Пратэінавы стасунак | Кармов. адзін | Пратэінавы стасунак |
| Самахвалавіцкі . | 10,5 | 1 : 14 | 11,7 | 1 : 11 | 13,6 | 1 : 11,4 |
| Лік выпадкаў . | 7 | 1 : 14 | 13 | 1 : 11 | 7 | 1 : 11,4 |
| Узьденскі . . | 13,1 | 1 : 11 | 17,1 | 1 : 12,5 | 17 | 1 : 11,5 |
| Лік выпадкаў . | 10 | 1 : 11 | 10 | 1 : 12,5 | 2 | 1 : 11,5 |
| Барысаўскі . . | 14,5 | 1 : 11,4 | 13,7 | 1 : 11,4 | 11,6 | 1 : 10,5 |
| Лік выпадкаў . | 13 | 1 : 11,4 | 10 | 1 : 11,4 | 1 | 1 : 10,5 |

Па Кельнеру на 1000 х. жывое вагі каня, пры лёгкай працы, належыць даць 13,2 хунт. кармовых адзінак, калі ў апошнія перакласьці

[1]) С. І. Лантух, стар. 183.

крухмальныя эквіваленты Кельнера; гэта ўказвае, што кармленьне дарослых коняй у Менскай акрузе нельга лічыць бедным, таму што пры малазямельлі беларускага селяніна і, у сувязі з гэтым, пры недастатковай нагрузцы яго каня, працу апошняга бадай ці можна лічыць звыш лёгкай. Заключэньне аб дастатковым кармленьні каня ў Менскай акрузе было-б, аднак, верна толькі пры тэй абавязковай умове, што пратэінавы стасунак у рацыёнах гэтага каня зьяўляецца нармальным. Але вось апошняга як раз і нельга сказаць аб тых рацыёнах, якія запісаны экспэдыцыяй, як гэта можна відаць з даных табліцы 11а.

З 73 рацыёнаў, якія паслужылі матар'ялам дзеля складаньня гэтае табліцы, толькі ў 21 выпадку мы маем рацыёны з стасункам ня шырэй 1:10, якое пашырэньне можна лічыць ужо гранічна-дапушчальным, ва ўсіх жа астатніх выпадках у нас меліся рацыёны з больш шырокім стасункам, які ў асобных выпадках раўняўся 1:19 і нават 1:22. Не пашкодзіць адзначыць, што адносна часткі моцных кормаў, якія даваліся коням, гаспадаркі эканамічна больш моцныя (2-я і 3-я групы) не адрозьніваюцца ад гаспадарак менш моцных (1-ая група).

Даць правільную ацэнку кармленьня каня мы можам толькі ў тым выпадку, калі нам дасканальна вядома ступень нагрузкі яго працаю. У даным выпадку гэтае ўмовы няма, таму што паказаньні гаспадароў аб працы іх коняй носяць яўна фантастычны характар і пагэтаму ня могуць быць скарыстаны. Дзеля прыкладу мы прывядзем паказаньні па 2-х раёнах: Самахвалавіцкаму і Барысаўскаму:

Па Барысаўскаму раёну

| Лік паказаньняў | Колькі дзён працаваў у год |
|---|---|
| 2 | 100 |
| 2 | 150 |
| 16 | 194 |
| 14 | 233 |
| 16 | 276 |

Па Самахвалавіцкаму раёну

| Лік паказаньняў | Колькі дзён працаваў у год |
|---|---|
| 1 | 200 |
| 8 | 180 |
| 6 | 240 |
| 3 | 243 |
| 15 | 293 |
| 7 | 295 |
| 1 | 300 |

Гэтыя паказаньні адносяцца толькі да кабыл мясцовае пароды ва ўзросьце ад 4—16 гадоў. Каб ацаніць па заслузе гэтыя лічбы, дастаткова ўспомніць, што напрыклад, на Кубані, дзе пасяўное плошчы прыпадае на каня 5 дзесяцін[1]), а ня 3,77 дзес.[2]), як у БССР, усяго на каня прыпадае за год 100-110 працоўных дзён, хаця тамака і працяжнасьць вэгэтацыйнага пэрыяду многа больш і лік непагодных дзён, у якія праца немагчыма, менш. Непамерна вялікую нагрузку каня Менскае акругі нельга тлумачыць рамізьніцтвам або якімі-небудзь іншымі працамі сялян на старане, таму што ўказаньняў на такую працу мала, па Самахвалавіцкаму раёну, напрыклад, толькі ў 4-х выпадках былі ўказаны працы на старане, пры чым гэтыя працы занялі ў сярэднім 37,5 дзён у той час, як працы ў сваёй гаспадарцы занялі ў сярэднім 170 дзён; у Барысаўскім

[1]) Гл. „Матар'ялы па жывёлаводзтву Куб. краю". А. А. Малігонаў. Вып. I і II.

[2]) Гл. „Сельская гаспадарка Беларускае ССР і меры да яе аднаўленьня" (пад рэдакц. Д. Ф. Прышчэпава).

раёне працы на старане больш распаўсюджаны, але ў колькасных адносінах яны займаюць такое самае скромнае месца, напрыклад, у 14 выпадках у сярэднім прыпадае 211 дзён працы ў сябе і 22 дні на старане, альбо ў 16 выпадках—219 дзён працы ў сябе і 57 дзён на старане і да т. п. Пераўвялічанасьць маючыхся ў нас паказаньняў яшчэ больш кінецца ў вочы, калі параўняць ступень нагрузкі каня па групах гаспадарак рознае магутнасьці: выяўляецца, што гаспадаркі, якія маюць найменшую колькасьць дзесяцін ральлі, даюць найвышэйшую нагрузку каню. З прычыны ўказаных зьявішчаў, даныя экспэдыцыі не дазваляюць нам скласьці яснае ўраджаньне аб нагрузцы працаю беларускага каня, а гэтая зьява не дае нам магчымасьці зрабіць ацэнку і кармленьня каня. Мы можам толькі адзначыць, што па даных экспэдыцыі, кармленьне беларускага каня трэба прызнаць здавальняючым па колькасьці кармовых адзінак і нездавальняючым па бялковаму стасунку, гэта пры ўмове, калі працоўную нагрузку яго прызнаць у сярэднім лёгкай[1]), якой яна і павінна быць, калі судзіць па колькасьці дзесяцін ральлі, якая прыпадае на 1 каня.

Рост і разьвіцьцё каня ў вельмі высокай ступені вызначаецца інтэнсыўнасьцю яго кармленьня і велічынёй яго працы, але, акрамя гэтага, вялікае значэньне мае і характар памяшканьня каня, прычым апошняе адбіваецца тым значней, чым халадней і даўжэй зіма. Аб якасьцях стайняў у сялянскіх гаспадарках Менскае акругі гавараць даныя табліцы 12.

Табліца 12. Якасьці стайняў у Менскай акрузе

| Адносна | | Дзеля жарабкоў мясцов. пароды | | | | | Дзеля кабыл мясцов. пароды | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Цяпла | Сьвету | Узросту ў гадох 1 г. | 2 г. | 3 г. | 4-16 г. | Лік пазаньняў | Узросту ў гадох 1 г. | 2 г. | 3 г. | 4-16 г. | 17 і старэй | Лік паказаньн. |
| Цёплыя | Сьветлыя . . | 2 | 7 | 3 | 2 | 14 | 4 | 5 | 1 | — | — | 9 |
| | Цёмныя . . | 2 | 6 | 3 | 2 | 13 | 4 | 4 | 9 | 20 | 2 | 39 |
| | Паўцёмныя . | 4 | 10 | 2 | 3 | 19 | 2 | 11 | 11 | 13 | 3 | 40 |
| Халодныя | Сьветлыя . . | 1 | 3 | — | — | 4 | 2 | 2 | 1 | 47 | 2 | 54 |
| | Цёмныя . . | 13 | 20 | 6 | 8 | 47 | 9 | 24 | 33 | 135 | 10 | 211 |
| | Паўцёмныя . | 11 | 14 | 6 | 5 | 36 | 14 | 11 | 15 | 80 | 4 | 114 |
| | | | | | Усяго . . | 133 | | | | | Усяго . . | 467 |

З параўнаньня гэтых даных мы бачым, што дзеля жарабкоў цёплае памяшканьне маецца ў 34,6% усіх гаспадарак, якія трымаюць жарабкоў, а дзеля кабыл такое памяшканьне даецца толькі ў 18,8% гаспадарак. Сьветлае памяшканьне і дзеля жарабкоў і дзеля кабыл даецца аднолькава

[1]) Гл. дзеля параўнаньня кармленьне Кубанскага каня па даных А. А. Малігонава: „Материалы по животноводству Куб. края“, вып. 1 і 2, стар. 103-106; кармленьне каня ў Варонескай губ. па даных С. В. Афанасьева: „Труды отдела зоотехнии ГИОА“, стар. 35, вып. 3 (21); кармленьне каня Сібірскага краю па даных С. І. Лантуха: „Исследования по коневодству Сибирск. края“, стар. 179.

часта, такое памяшканьне маецца ў 13,5% усіх гаспадарак, прычым халодныя памяшканьні зьяўляюцца большай часткай і цёмнымі. З гэтых даных трэба зрабіць вывад, што на прапаганду палепшаньня памяшканьняў мясцовым зоотэхнікам і аграномам неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу.

Падлічыць усе знадворныя фактары, якія ўплываюць на фізычнае разьвіцьцё каня: кармленьне, працу, якасьць памяшканьняў, характар догляду і інш., хаця і вельмі пажадана, але вельмі цяжка, дый гэта бадай ці неабходна, таму што асаблівасьці экстэр'еру ў аднародных групах жывёлаў дастаткова ясна адбіваюць, наколькі знадворныя фактары спрыяюць разьвіцьцю жывёлы. З прычыны гэтага, на экстэр'ерныя даныя мы зварочваем асаблівую ўвагу, тым балей, што гэтыя даныя зьяўляюцца досыць дасканальнымі і зусім аб'ектыўнымі. Экстэр'ерныя асаблівасьці мясцовых коняй па раёнах і па ўзрослых групах можна бачыць з табліц 13 і 14.

Разгледзеўшы гэтыя табліцы, можна зрабіць шэраг вывадаў: так па якасьці, больш правільна па моцы коняй, вызначаецца Самахвалавіцкі раён; з табл. 13 відаць, што ў 3-х выпадках з 4-х гэты раён вызначаецца сярод усіх найбольшай вышынёй і найбольшай даўжынёй сваіх жарабкоў, па шырыні ж грудзей жарабкі Самахвалавіцкага раёну ва ўсіх 4-х узрослых групах займаюць першае месца; жарабкі Барысаўскага раёну, наадварот, вызначаюцца найменшай велічынёй і магутнасьцю. Такое самае заключэньне можна зрабіць з даных табл. 14 адносна складу цела кабыл, асабліва калі коняй розных раёнаў раўняць па жывой вазе. Іншыя раёны акругі разьмяшчаюцца паміж указанымі, набліжаючыся або да Самахвалавіцкага раёну (напр., раён Койданаўскі) або да Барысаўскага (напр., раён Заслаўскі). Узьдзенскі раён займае як бы сярэдняе месца. Гэта агульнае ўражаньне пацьвярджаецца, калі мы вылічым найбольш ужытачныя індэксы па трох указаных раёнах, як гэта відаць з табл. 15.

Табл. 15. Індэксы, якія характарызуюць склад цела кабыл мясцовае пароды

| | Самахвалавіцкі раён | Узьдзенскі раён | Барысаўскі раён |
|---|---|---|---|
| 1. Каэфіцыэнт цяжкавасьці . . . | 150 | 145 | 142 |
| 2. Тое самае па формуле Барона . | 2,222 | 2,121 | 1,935 |
| 3. Даўжыня тулава / Вышыня загрыўка . . . . . . | 1,104 | 1,089 | 1,093 |
| 4. Абхват пясьці / Вышыня загрыўка . . . . . . | 0,136 | 0,137 | 0,129 |
| 5. Шырыня грудзей / Вышыня загрыўка . . . . . . | 0,273 | 0,253 | 0,245 |

Першыя два індэксы паказваюць, што Узьдзенскі конь па тыпу складу цела займае сярэдняе месца, яго індэкс вельмі блізкі да велічыні 2,125, пры якой конь аднолькава здольны і да разьвіцьця моцы і да разьвіцьця шпаркасьці бегу. Конь Самахвалавіцкага раёну, які дае больш высокі індэкс, больш здольны да разьвіцьця моцы, конь жа Барысаўскага раёну, які характарызуецца індэксам меншым 2,125, больш здольны да разьвіцьця шпаркасьці. Астатнія раёны, як мы ўжо гаварылі, займаюць

Табліца 13. Прамеры жарабкоў мясцовае пароды (сярэднія)

| Узрост у гадох | Назва раёнаў | Жыв. вага | | Вышыня ў загрыўку | Даўжыня тулава | Шырыня грудзей | Глыбіня грудзей | Абхват | | | | | Вышыня грудзей | Лік выпадкаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Па запісу | Вылічана | | | | | Грудзей | Перадпясьцці | Пясьці | Скакальн. суставы | Плюсны | | |
| 1 год | Заслаўскі . . . | 20 | 21,0 | 141 | 145 | 38 | 60 | 158 | 32 | 20 | 41 | 21 | 78 | 7 |
| | Самахвалавіцкі . | 19 | 22,0 | 144 | 152 | 38 | 61 | 163 | 32 | 19 | 42 | 21 | 78 | 6 |
| | Койданаўскі . . | 17 | 20,0 | 142 | 144 | 36 | 57 | 156 | 31 | 20 | 41 | 21 | 79 | 6 |
| | Узьдзенскі . . | 18,7 | 20,7 | 143 | 151 | 37 | 57 | 159 | 32 | 20 | 42 | 21 | 80 | 9 |
| | Сьмілавіцкі . . | 18,0 | 18,1 | 137 | 149 | 34 | 56 | 151 | 30 | 18 | 39 | 21 | 78 | 3 |
| | Смалевіцкі . . | 18,7 | 20,6 | 141 | 148 | 36 | 57 | 157 | 31 | 19 | 41 | 21 | 76 | 6 |
| | Барысаўскі . . | 18,5 | 16,2 | 134,5 | 139,7 | 33 | 54 | 146 | 28 | 18 | 37 | 19,0 | 71 | 4 |
| 2 годы | Заслаўскі . . . | 21,7 | 22,0 | 143 | 152 | 38 | 61 | 161 | 30 | 20 | 40 | 21 | 78 | 14 |
| | Самахвалавіцкі . | 24 | 28,7 | 150 | 160 | 43 | 64 | 179 | 34 | 21 | 43 | 22 | 82 | 8 |
| | Койданаўскі . . | 25,5 | 29,8 | 154 | 165 | 41 | 65 | 178 | 34 | 22 | 46 | 23 | 82 | 6 |
| | Узьдзенскі . . | 19,7 | 26,5 | 146 | 157 | 39 | 60 | 167 | 31 | 20 | 42 | 22 | 77 | 8 |
| | Сьмілавіцкі . . | 19,6 | 22 | 145 | 151 | 33 | 59 | 161 | 31 | 20 | 41 | 21 | 78 | 9 |
| | Смалевіцкі . . | 22.0 | 26,0 | 145 | 152 | 38 | 60 | 171 | 31 | 20 | 40 | 21 | 78 | 13 |
| | Барысаўскі . . | 22 | 21,0 | 141 | 148 | 36 | 57 | 159 | 30 | 20 | 39 | 21 | 74 | 7 |
| 3 годы | Заслаўскі . . . | 36,0 | 30,0 | 147 | 160 | 41 | 64 | 169 | 32 | 20 | 43 | 23 | 81 | 3 |
| | Самахвалавіцкі . | 33,5 | 34,0 | 158 | 178 | 47 | 68 | 188 | 36 | 22 | 45 | 25 | 86 | 2 |
| | Койданаўскі . . | 21,4 | 24,0 | 142 | 153 | 37 | 58 | 166 | 32 | 20 | 41 | 22 | 77 | 5 |
| | Узьдзенскі . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Сьмілавіцкі . . | 25,8 | 28,5 | 151 | 161 | 40 | 63 | 176 | 34 | 22 | 45 | 23 | 78 | 5 |
| | Смалевіцкі . . | 21,0 | 24,0 | 141 | 148 | 38 | 60 | 166 | 29 | 18 | 39 | 20 | 75 | 3 |
| | Барысаўскі . . | 24,5 | 25,0 | 146 | 155 | 37 | 60 | 166 | 31 | 20 | 40 | 22 | 77 | 4 |
| 4—16 гадоў | Заслаўскі . . . | 27,9 | 27,0 | 150 | 164 | 39 | 54 | 173 | 33 | 20 | 42 | 23 | 81 | 7 |
| | Самахвалавіцкі . | 31,0 | 33,0 | 157 | 172 | 44 | 66 | 185 | 36 | 22 | 46 | 24 | 83 | 4 |
| | Койданаўскі . . | 31,0 | 32,0 | 155 | 169 | 43 | 67 | 182 | 35 | 22 | 45 | 24 | 83 | 3 |
| | Узьдзенскі . . | 43,0 | 39,9 | 148 | 170 | 46 | 65 | 187 | 35 | 24 | 47 | 26 | 74 | 1 |
| | Сьмілавіцкі . . | 30,0 | 31,7 | 153 | 162 | 42 | 65 | 182 | 36 | 22 | 41 | 24 | 80 | 5 |
| | Смалевіцкі . . | 25,0 | 25,5 | 145 | 156 | 41 | 61 | 170 | 32 | 22 | 42 | 23 | 73 | 1 |
| | Барысаўскі . . | 27,5 | 26,7 | 146 | 156 | 41 | 60 | 173 | 31 | 20 | 37 | 20 | 74 | 2 |

Табліца 14. Прамеры ка̍зыл мясцовае пароды (сярэднія)

| Узрост у гадох | Назва раёнаў | Жыв. вага: Па запісу | Жыв. вага: Вылічана | Вышыня ў загрыўку | Даўжыня тулава | Шырыня грудзей | Глыбіня грудзей | Абхват: Грудзей | Абхват: Перадпясьці | Абхват: Пясьці | Абхват: Скакальн. суставы | Абхват: Плюсны | Вышыня грудзей | Лік выпадкаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 год | Заслаўскі | 18,0 | 19,4 | 136 | 141 | 35,5 | 56,5 | 153 | 29 | 19 | 38 | 21 | 76 | 7 |
| | Самахвалавіцкі | 22,2 | 23,8 | 146 | 153 | 38 | 61 | 166 | 31 | 19,4 | 40 | 21 | 81 | 5 |
| | Койданаўскі | 19,0 | 22,0 | 147 | 150 | 40 | 60 | 162 | 31,5 | 20 | 42 | 21 | 80 | 5 |
| | Узьдзенскі | 17,0 | 20,5 | 138 | 147 | 40,5 | 57 | 158 | 30,5 | 24 | 40 | 20,5 | 72 | 2 |
| | Сьмілавіцкі | 19,0 | 21,1 | 138,3 | 145 | 36 | 57 | 162 | 30 | 19,7 | 41,3 | 20,7 | 77 | 3 |
| | Смалевіцкі | 19,0 | 22,4 | 139,2 | 149 | 36 | 58 | 162 | 29 | 18,7 | 38,5 | 20,2 | 74,2 | 4 |
| | Барысаўскі | 19,5 | 18,75 | 138 | 141 | 34 | 55.5 | 153 | 30 | 19 | 38,5 | 20.5 | 73,5 | 2 |
| 2 годы | Заслаўскі | 19,5 | 19,7 | 138 | 148 | 36 | 57 | 156 | 29 | 18 | 37 | 19 | 75 | 14 |
| | Самахвалавіцкі | 23,0 | 27,0 | 147 | 162 | 40 | 62 | 176 | 31 | 20 | 41 | 22 | 78 | 12 |
| | Койданаўскі | 22,0 | 25,0 | 147 | 156 | 38 | 63 | 162 | 32 | 21 | 41 | 21 | 79 | 7 |
| | Узьдзенскі | 18,0 | 23,7 | 143 | 153 | 37 | 60 | 165 | 30 | 19 | 39 | 21 | 76 | 13 |
| | Сьмілавіцкі | 19,8 | 22,0 | 140 | 152 | 35 | 58 | 162 | 30 | 20 | 40 | 21 | 77 | 6 |
| | Смалевіцкі | 19,0 | 21,0 | 138 | 146 | 35 | 57 | 160 | 29 | 18 | 37 | 20 | 74 | 7 |
| | Барысаўскі | 17,0 | 17.0 | 132 | 140 | 32 | 55 | 150 | 28 | 18 | 36 | 20 | 67 | 4 |
| 3 годы | Заслаўскі | 24 | 24 | 145 | 155 | 38 | 63 | 167 | 31 | 19 | 39 | 22 | 78 | 9 |
| | Самахвалавіцкі | 27 | 28 | 151 | 165 | 39 | 65 | 176 | 32 | 21 | 41 | 23 | 82 | 12 |
| | Койданаўскі | 25 | 27 | 154 | 164 | 39 | 65 | 173 | 31 | 20 | 43 | 22 | 82 | 17 |
| | Узьдзенскі | 19,6 | 24 | 146 | 157 | 38 | 62 | 166 | 31 | 20 | 40 | 22 | 78 | 5 |
| | Сьмілавіцкі | 21,7 | 22.8 | 145 | 156 | 37 | 61 | 159 | 31 | 20 | 40 | 22 | 77 | 12 |
| | Смалевіцкі | 21,0 | 24,0 | 143 | 153 | 37 | 60 | 166 | 30 | 19 | 39 | 21 | 75 | 10 |
| | Барысаўскі | 21,0 | 20,0 | 137 | 147 | 33 | 59 | 158 | 28 | 18 | 38 | 20 | 71 | 10 |
| 4—16 гадоў | Заслаўскі | 25,0 | 24,5 | 143 | 157 | 38 | 62 | 167 | 29 | 19 | 38 | 21 | 76 | 59 |
| | Самахвалавіцкі | 31,5 | 33,3 | 154 | 170 | 42 | 67 | 185 | 32 | 21 | 42 | 23 | 83 | 53 |
| | Койданаўскі | 25,0 | 29,4 | 148 | 165 | 39 | 63 | 178 | 31 | 20 | 41 | 22 | 79 | 36 |
| | Узьдзенскі | 21,0 | 27,5 | 146 | 159 | 37 | 62 | 176 | 30 | 20 | 38 | 20 | 76 | 37 |
| | Сьмілавіцкі | 22,0 | 27.0 | 146 | 159 | 37 | 62 | 173 | 31 | 20 | 39 | 21 | 75 | 51 |
| | Смалевіцкі | 23,3 | 25,6 | 141 | 154 | 37 | 60 | 170 | 29 | 18,5 | 39 | 21 | 73 | 40 |
| | Барысаўскі | 23.5 | 23,2 | 139 | 152 | 34 | 59 | 164 | 28 | 18 | 37 | 21 | 67 | 50 |
| 17 гадоў і старэй | Заслаўскі | 19,0 | 20,6 | 138 | 144 | 35 | 61 | 160 | 28 | 18 | 36 | 20 | 69 | 2 |
| | Самахвалавіцкі | 20 | 25,7 | 148 | 156 | 38 | 64 | 171 | 29 | 19 | 41 | 21 | 80 | 2 |
| | Койданаўскі | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Узьдзенскі | 17,5 | 28,5 | 148 | 160 | 36,5 | 63 | 175 | 33 | 20 | 40 | 21 | 79 | 2 |
| | Сьмілавіцкі | 22,7 | 24 | 142 | 152 | 37 | 62 | 167 | 29 | 19 | 39 | 22 | 74 | 3 |
| | Смалевіцкі | 22,0 | 24 | 141 | 153 | 37 | 59 | 166 | 29 | 19 | 39 | 21 | 74 | 10 |
| | Барысаўскі | 24,0 | 24,0 | 140 | 156 | 34 | 60 | 167 | 30 | 19 | 39 | 21 | 71 | 4 |

сярэдняе месца, набліжаючыся па тыпу сваіх коняй або да тыпу Самахвалавіцкага або да тыпу Барысаўскага каня.

Трэці і пяты індэксы паказваюць адноснае разьвіцьцё даўжыні тулава і шырыні грудзей у коняй розных раёнаў, чым гэтыя прамеры разьвіты менш, тым ступень недаразьвіцьця больш; па разьвіцьцю гэтых прамераў Самахвалавіцкі конь стаіць першым, чаго, бязумоўна, і трэба было чакаць.

Па чацьвертаму індэксу, які характарызуе адносную грубакостасьць каня, на першым месцы стаіць Узьдзенскі конь, конь жа Барысаўскага раёну і тутака займае апошняе месца.

Каб ацаніць па заслузе каня Менскае акругі, мы параўняем тры галоўныя прамеры яго з такімі самымі прамерамі коняй іншых мясцовасьцяў.

Табл. 16. **Параўнаньне коняй Барысаўскага і Самахвалавіцкага раёнаў з коньмі іншых мясцовасьцяў**

| | Дарослыя кабылы (4 гад. і старэй) | | | | Дарослыя коні (6 гадоў) Ва-ронескае губэрні[2]) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Барысаўск. раёну (Менскае акр.) | Самахвалавіцк. р. (Менскае акр.) | Кубанскі[1]) мясцовы | Кубанскі[1]) ўзбуйнены | Мясцовы палепшаны | Мэтысы ангельскія цяжкавозы | Мэтысы рысакі |
| Вышыня ўзагрыўку | 139 | 154 | 138,4 | 150 | 154,3 | 155,2 | 154,7 |
| Даўжыня тулава . | 152 | 170 | 143,5 | 155,8 | 161,6 | 163,3 | 158,9 |
| Абхват грудзей . . | 164 | 185 | 157,3 | 166,4 | 182,7 | 185,2 | 179,6 |

З параўнаньня прыведзеных прамераў відаць, што коні Барысаўскага раёну ўсё ж лепшыя, чымся мясцовы Кубанскі конь, але горшыя ўсіх іншых груп, якія прыведзены ў табліцы. Конь жа Самахвалавіцкага раёну значна лепшы ня толькі мясцовага Кубанскага, але і ўзбуйненага Кубанскага каня, лепшы ён таксама, чымся Варонескі палепшаны конь альбо Варонескі конь, мэтызаваны рысаком (ён ніжэй, але моцней апошняга). Самахвалавіцкі конь набліжаецца па тыпу складу цела да групы Варонескіх коняй, мэтызаваных цяжкавозам. Самахвалавіцкі конь, напэўна, зьяўляецца вельмі добрым сельска-гаспадарчым канём, ён мог бы служыць паляпшаючым матар'ялам дзеля коняй усякага раёну БССР. На жаль, зусім адчыненым застаецца пытаньне аб тым, у якой меры эканамічныя ўмовы сялянскае гаспадаркі Самахвалавіцкага раёну спрыяюць разьвядзеньню коняй. Без вырашэньня ж гэтага пытаньня нельзя нічога сказаць аб пажаданасьці тых або іншых мерапрыемстваў па разьвіцьцю гадоўлі коняй у гэтым раёне.

Вельмі цікавыя даныя атрымліваюцца пры параўнаньні жывое вагі (вылічанае) аднагадовых і зусім дарослых коняй Менскае акругі. Разьвіцьцё жарабятаў аднагадовых лічыцца правільным у тым выпадку, калі жывая вага аднагодак складае $^2/_3$ жывое вагі дарослых коняй. Калі з гэтага пункту гледжаньня параўняць жывую вагу жарабкоў і кабыл указаных узростаў, дык выявіцца, што жывая вага аднагадовых кабылак ва ўсіх без выключэньня раёнах будзе большая, чымся $^2/_3$ жывое вагі

[1]) „Исследования по коневодству Сибирск. края". Праф. А. А. Малігонаў, стар. 18.
[2]) „Коневодственные районы Воронежской губ.". Труды аддзелу зоотэхн. ГІОА № 3 (21) С. В. Афанасьеў.

даросльх кабыл; той самы малюнак назіраецца, наогул, і ў стасунку жывое вагі аднагадовых жарабятаў да вагі жарабкоў 4-16-цігадовых, хаця тутака малюнак ужо ня так яўна выражаны, як у стасунку кабыл. Такое добрае разьвіцьцё аднагодак, па нашай думцы, павінна тлумачыцца вялікай працяжнасьцю сысуновага пэрыяду, аб чым сьведчаць даныя табл. 9. Але дзіўны і нечаканы вывад атрымліваецца пры параўнаньні паміж сабою жывое вагі (і прамераў) аднагадовых жарэбчыкаў і кабылак: выяўляецца, што толькі ў Заслаўскім раёне аднагадовыя жарэбчыкі крыху пераважаюць сваёю вагою аднагадовых кабылак, ва ўсіх жа астатніх раёнах мы маем адваротны стасунак (амаль што аднолькавая вага гэтых жывёлаў ва Узьдзенскім раёну). Меншая жывая вага аднагадовых жарэбчыкаў, у параўнаньні з вагою аднагадовых кабылак, здаецца нам тым болей дзіўнаю, што жарэбчыкі, як агульнае правіла, родзяцца больш важкімі, чымся кабылкі, кармленьне ж аднагодак, як гэта відаць з даных табл. 11, амаль аднолькавае дзеля абодвух родаў, а памяшканьне дзеля жарабкоў даецца нават больш цёплае (даныя табл. 12). У канцы 2-га году жыцьця жарэбчыкі ўжо ва ўсіх раёнах маюць большую жывую вагу, чымся кабылкі. Трэба думаць, што ва ўмовах выхаваньня аднагадовых жарэбчыкаў маюцца некаторыя дэфэкты, якія ня былі адзначаны экспэдыцыяй.

Дзеля таго, каб каню таго ці іншага раёну, як рухавіку, даць найбольш схэматычную, агульную характарыстыку, умовіліся вызначаць у процантным стасунку часткі розных груп конскага статка па вышыні загрыўка (холки) альбо па жывой вазе каня. Дзяленьне коняй па вышыні загрыўка важна, па-першае, таму, што гэты прамер да некаторае ступені запраўды адбівае моц каня, па-другое, гэта адзіны прамер, узяты дзеля клясыфікацыі коняй пры вайскова-конскіх перапісах, з прычыны чаго, раўняючы велічыню гэтага прамеру з велічынёй яго за пэрыяды перапісу, мы можам судзіць аб тым напрамку, у якім ішло да гэтага часу разьвіцьцё каня.

Даныя аб жывой вазе, г. ё. аб масе каня, яшчэ ў большай ступені, чымся яе вышыня, характарызуюць моц каня, як рухавіка[1]), пагэтаму, пры заключэньні экстэр'ернага агляду каня Менскае акругі, зусім мэтазгодна даць схэматычную характарыстыку яго па дзьвёх указаных прыметах

Табл. 17. Вышыня ў загрыўку дарослых коняй (4—16 гад.) Менскай акругі.

| Назва раёнаў | Кабылы: Маламеркі (да 1 арш. 14 вяршк.) | Кабылы: Ад 1 арш. 14 вяршк. да 2-х арш. | Кабылы: Ад 2-х аршын і вышэй | Жарабкі: Маламеркі (да 1 арш. 14 вяршк. | Жарабкі: Ад 1 арш. 14 вяршк. да 2-х арш. | Жарабкі: Ад 2-х аршын і вышэй |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Заслаўскі | 1 | 31 | 27 | — | 1 | 6 |
| Самахвалавіцкі | — | 1 | 52 | — | — | 3 |
| Койданаўскі | — | 6 | 30 | — | — | 3 |
| Узьдзенскі | 2 | 9 | 26 | — | — | 1 |
| Сьмілавіцкі | 3 | 15 | 33 | — | 1 | 4 |
| Смалявіцкі | 2 | 24 | 14 | — | — | 1 |
| Барысаўскі | 9 | 24 | 17 | — | 1 | 1 |
| Усяго | 17 | 110 | 199 | — | 3 | 19 |
| У %% | 5,21 | 33,74 | 61,05 | — | 13,63 | 86,37 |

[1]) Па Вюсту сярэдняя цяга, на якую здольны конь пры доўгай працы, раўняецца 13-15% вагі каня.

Гэтую таблі́цу цікава параўняць з данымі вайскова-конскіх перапісаў 1900-1912 гадоў па тых паветах, тэрыторыя якіх цалкам або часткова ўваходзіць у Менскую акругу.

Табл. 18. Вышыня коняй працоўнага ўзросту па вайскова-конскіх перапісах у%%

| | Гады перапісу | Маламеркі | Ад 1 арш. 14 вярш. да 2-х арш. | Ад 2 арш. і вышэй |
|---|---|---|---|---|
| Менскі павет . . . . . . . . . | 1900<br>1912 | 47,6<br>40,5 | 39,4<br>6,8 | 13,0<br>52,7 |
| Барысаўскі . . . . . . . . . . | 1900<br>1912 | 79,3<br>83,2 | 19,4<br>13,6 | 1.3<br>4,2 |
| Слуцкі павет . . . . . . . . . | 1900<br>1912 | 49,0<br>23,6 | 39,1<br>35,2 | 11,9<br>41,2 |
| Чэрвенскі павет . . . . . . . . | 1900<br>1912 | 68,0<br>65,2 | 28,0<br>23,0 | 4,0<br>11,8 |

З параўнаньня даных гэтых табліц відаць, што працэс узбуйненьня Менскага каня ідзе бязупынна, але ў той час, як раней, у пэрыяд 1900—1912 гг., ён ішоў за кошт маларослых і сярэднярослых коняй, у пасьляваенны пэрыяд ён ідзе выключна за кошт маламерак, таму што % сярэднярослых коняй у акрузе таксама павялічыўся, як і % высокарослых. Інтэнсыўнасьць узбуйненьня каня, ня гледзячы на вайну і гады руйнаваньня, бадай ці меншая, чымся ў даваенны пэрыяд: %% маламерак, які хістаўся па паветах ад 82 да 23, цяпер па акрузе зьнізіўся да 5,21, % высокарослых коняй, які хістаўся ў 1912 годзе ад 4,2 да 52,7, цяпер у сярэднім па акрузе ўзьняўся да 61, г. ё. каля 2/3 усіх коняй належаць цяпер да групы высокарослых, г. ё. маючых вышыню ў загрыўку ў 2 аршыны і больш.

Як разьмяркоўваюцца коні Менскае акругі па жывой вазе, можна відаць з даных табл. 19.

Табл. 19. Жывая вага коняй Менскай акругі мясцовай пароды.

| Узрост | Кабылы: Да 16 пуд. | Кабылы: 17-20 пуд. | Кабылы: 21-25 пуд. | Кабылы: 26-30 пуд. | Кабылы: 31-35 пуд. | Кабылы: 36-40 пуд. | Кабылы: 40 пуд. і больш | Жарабкі: Да 16 пуд. | Жарабкі: 17-20 пуд | Жарабкі: 21-25 пуд. | Жарабкі: 26-30 пуд. | Жарабкі: 31-35 пуд. | Жарабкі: 36-40 пуд. | Жарабкі: 40 пуд. і больш |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 г. | 2 | 7 | 18 | 2 | — | — | — | 4 | 17 | 14 | 4 | 4 | — | — |
| 2 г. | 4 | 19 | 21 | 14 | 3 | — | — | 1 | 17 | 24 | 12 | 8 | — | — |
| 3 г. | 2 | 8 | 33 | 20 | 11 | — | — | — | 3 | 7 | 7 | 3 | — | 2 |
| 4—16 г. | 1 | 35 | 111 | 102 | 54 | 15 | 6 | — | 1 | 7 | 6 | 2 | 2 | — |
| 17 г. і вышэй | — | 4 | 11 | 7 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

Калі вагавыя групы коняй працоўнага ўзросту (4 гады і старэй)—кабыл у колькасьці 347 галоў і жарабкоў у колькасьці 18 галоў—прад-

ставіць у процантных стасунках, дык атрымаем разьмеркаваньне іх згодна табл. 20.

Табл. 20. Процантнае разьмеркаваньне коняй працоўнага ўзросту па жыв. вазе.

| | Да 20 пудоў | 21-25 п. | 26-30 п. | 31-35 п. | 36-40 п. | 40 п. і больш. | Да 20 пудоў | 21-25 п. | 26-30 п. | 31-35 п. | 36-40 п. | 40 п. і больш. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кабылы | | | | | | Жарабкі | | | | | |
| $^0/_0{}^0$ | 11,4 | 35,6 | 31,3 | 15,4 | 4,5 | 1,8 | 28,5 | 34,5 | 19,2 | 11,2 | 4,7 | 1,9 |

З гэтае табліцы відаць, што з ліку дарослых коняй больш 60$^0/_0$, г. ё. каля $^2/_3$ усяе колькасьці прыпадае на коняй жывое вагі ад 21 да 30 пудоў.

Каб скончыць экстер'ерную характарыстыку коняй Менскае акругі, мы праведзем падзел іх па масьцях, вынікі чаго знаходзяцца ў табл. 21.

Табл. 21. Разьмеркаваньне коняй мясцовае пароды па масьцях (кабылы).

| | Гнедае | Рыжае | Шэрае | Вараное | Каштанавае | Сівае | Мышынае | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 год | 6 | 10 | 5 | 4 | — | 2 | — | — |
| 2 гады | 23 | 10 | 11 | 13 | — | 3 | — | — |
| 3 „ | 26 | 14 | 16 | 10 | 2 | 3 | 1 | — |
| 4-16 г. | 140 | 48 | 43 | 54 | 10 | 21 | 2 | 8 |
| 17 і больш. | 6 | 2 | 2 | 8 | 2 | — | — | 2 |
| Усяго | 202 | 84 | 77 | 89 | 14 | 29 | 3 | 10 |
| У $^0/_0{}^0$ | 39,8 | 16,6 | 15,2 | 17,4 | 2,8 | 5,7 | 0,6 | 1,9 |

Як відаць з гэтае табліцы, пераважнаю масьцю сярод коняй мясцовае пароды зьяўляецца гнедая (да 40$^0/_0$), далей ідуць масьці вараная, потым рыжая і шэрая, аднак, розьніца ў ступені распаўсюджваньня апошніх трох масьцей такая невялікая, што іх можна лічыць аднолькава пашыранымі Цікава, што такі самы парадак распаўсюджваньня масьцей назіраецца, па даных С. В. Афанасьева, і сярод коняй Варонескае губ., у групе мясцовага палепшанага каня, а таксама ў групах мэтысаў мясцовага каня з рысаком і з ангельскім цяжкавозам, у групе ж мэтысаў мясцовага Варонескага каня з пэршэронам на першым месцы стаіць шэрая масьць.

Канчаючы апісаньне Менскага с.-гаспадарчага каня, ня лішне будзе прывесьці даныя аб цане коняй у межах акругі за лета 1927 году: у матар'ялах абсьледваньня маюцца даныя аб продажы сялянамі 11 жарабятаў аднагодак па сярэдняй цане ў 70 руб. 60 кап., потым 10 выпадкаў продажу двухлетак па сярэдняй цане 111 руб. 50 кап. і, нарэшце, 2 выпадкі продажу трохлетак па цане 132 руб. 50 кап. Дарослыя коні купляліся — простыя па сярэдняй цане за 144 руб. (8 выпадкаў), палепшаныя па 215 руб. 40 кап. (13 вып.) і рысакі па 500 руб. (2 выпадкі).

**Мазырская акруга.** Абсьледваньне Мазырскае акругі было зроблена ў пэрыяд ад 15/VI да 8/VII 1927 г. Абсьледванем было захоплена 42 заселеныя пункты ў 16 сельсаветах. Індывідуальных картак было сабрана

357 (259 кабыл і 98 жарабкоў). На жаль, пры гэтым абсьледваньні ня складаліся пасялённыя блянкі, чаму цэлы шэраг зьвестак, неабходных дзеля характарыстыкі каняводзтва, ня быў сабраны; з прычыны гэтага нельга, напрыклад, выявіць стасунак ліку кабыл да ліку жарабкоў, ліку маладняка да ліку кабыл і г. д. і г. д. Акрамя таго, нязначная колькасьць картак (357), распыленых па 7 раёнах акругі, не дае магчымасьці скласьці параёнавую характарыстыку каняводзтва, чаму і прыходзіцца здаволіцца толькі аглядам яго па акрузе ўцэлым.

Аб напрамку каняводзтва мы можам судзіць толькі ўскосна, на падставе паказаньняў тых індывідуальных картак, у якіх адзначалася пахаджэньне каня, як гэта відаць з даных табл. 22.

Табл. 22. **Пахаджэньне коняй Мазырскае акругі мясцовае пароды.**

| | Кабылы | Жарабкі | Усяго |
|---|---|---|---|
| Выгадаваныя | 48 | 48 | 96 |
| Куплёныя на сваім рынку | 20 | 28 | 48 |
| Куплёныя на баку | 4 | 2 | 6 |
| Выменёныя | 2 | 2 | 4 |

Калі судзіць па гэтых даных, дык трэба прызнаць, што гадоўля коняй у Мазырскай акрузе пашырана нават больш, чымся ў Менскай (параўн. табл. 4 і 5), процант жа куплёных коняй адпаведна ніжэйшы.

Вельмі важны фактар у справе гадоўлі маладняка, працяжнасьць сысуновага пырыяду, у Мазырскай акрузе не адрозьніваецца, як відаць, ад працяжнасьці яго ў Менскай акрузе; аб гэтым сьведчаць даныя табліцы 23.

Табл. 23. **Працяжнасьць сысуновага пэрыяду ў месяцах.**

| Лік месяцаў | 4–5 | 5–6 | 7–8 | 8–9 | да адбою |
|---|---|---|---|---|---|
| Кабылы | 7 | 31 | 11 | 2 | 24 |
| Жарабкі | 5 | 11 | 8 | — | 13 |
| Усяго | 12 | 42 | 19 | 2 | 37 |

І тутака, значыцца, таксама, як і ў Менскай акрузе, палова ўсяе колькасьці жарабятаў ссуць сваіх матак звыш шасьці месяцаў, пры чым з гэтае паловы значная частка сьсе кабыл да адбою.

Кармленьне каня ў зімовы пэрыяд, выяўленае ў хунтах кармовых адзінак і пералічанае на 1000 хунт. жывае вагі каня, прадстаўлена данымі табл. 24.

Табл. 24. На 1000 х. жыв. вагі каня ў зімовы пэрыяд за суткі прыпадае:

| Узрост | Лік кармавых адзінак на кабыл | Лік выпадкаў | Лік кармовых адзінак на жарабкоў | Лік выпадкаў |
|---|---|---|---|---|
| 1 год, | 15,0 | 6 | 13,6 | 7 |
| 2 „ | 16,8 | 7 | 13,2 | 12 |
| 3 „ | 14,0 | 7 | 13.8 | 10 |
| 4—16 год. | 14,5 | 53 | — | — |
| 17 г. і больш. | 14,7 | 4 | — | — |

З гэтых даных відаць, што кармленьне кабыл у Мазырскай акрузе аднолькава па інтэнсыўнасьці з кармленьнем іх у Менскай акрузе, жарабяты ж на Мазыршчыне кормяцца горш, чымся ў Менскай акрузе, і горш, чымся кабылы ў тэй жа Мазырскай акрузе. Растлумачыць гэтую розьніцу нам цяжка; тутака, магчыма, грае ролю і выпадковасьць назіраньняў, таму што лік зарэгістраваных кармовых норм дзеля жарабятаў вельмі невялікі, усяго 39.

Адносна працоўнае нагрузкі коняй даных, як мы ўжо гаварылі, у нас няма, ды па Мазыршчыне гэтую нагрузку і выявіць цяжэй, таму што тутака побач з канём працуе і вол, які толькі вельмі паступова выціскаецца канём.

Адносна трэцяга фактару, які моцна ўплывае на рост і разьвіцьцё жывёлаў, — адносна памяшканьня, у нас маюцца па Мазырскай акрузе тыя самыя даныя, як па Менскай, што відаць з табл. 25.

Табл. 25. Якасьць стайняў у Мазырскай акрузе.

| | Памяшканьне | Дзеля кабыл мясцовае пароды | Дзеля жарабкоў мясцовае пароды | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Цёплае | Сьветлае . . . . . | 2 | 4 | 6 |
| | Цёмнае . . . . . . | — | 3 | 3 |
| | Паўцёмнае . . . . . | — | 3 | 3 |
| Халоднае | Сьветлае . . . . . | — | — | — |
| | Цёмнае . . . . . . | 18 | 27 | 45 |
| | Паўцёмнае . . . . . | 17 | 19 | 36 |

З гэтае табліцы відаць, што ў Мазырскай акрузе таксама, як і ў Менскай (гл. табл. 12), жарабкі карыстаюцца некалькі лепшым памяшканьнем, чымся кабылы; тым больш дзіўным пагэтаму здаецца вывад, зроблены з даных папярэдняе табліцы аб больш бедным, у параўнаньні з кабыламі, кармленьні жарабкоў.

Яшчэ лепшым памяшканьнем, чымся жарабкі мясцовае пароды,

карыстаюцца ў Мазырскай акрузе мэтысныя коні, аб чым сьведчаць даныя табл. 26.

Табл. 26. Якасьць стайняў дзеля мэтысных коняй (мэтысы з рысаком і цяжкавозам).

| | | |
|---|---|---|
| Цёплая | Сьветлая | 8 |
| | Цёмная | 10 |
| | Паўцёмная | 2 |
| Халодная | Сьветлая | 1 |
| | Цёмная | 4 |
| | Паўцёмная | 4 |

З гэтага вынік, што нават у Мазырскай акрузе, дзе каняводзтва зусім ня мае гандлёвага характару, палепшанага каня больш шкадуюць, а значыцца, і вышэй цэняць, чымся каня мясцовага. Даныя гэтых табліц таксама, як і даныя табл. 12, паказваць, што значэньне асьвятленьня памяшканьняў дзеля жывёлаў зразумела насельніцтву яшчэ менш, чымся значэньне ацяпленьня.

Экстэр'ерныя асаблівасьці Мазырскага каня мясцовае пароды можна бачыць з даных табл. 27.

Табл. 27. Прамеры жарабкоў і кабыл мясцовае пароды (сярэднія).

| Род | Узрост у гадох | Жывая вага | | Вышыня ў загрыўку | Даўжыня тулава | Шырыня грудзей | Глыбіня грудзей | Абхват | | | | | Лік жывёлаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Па запісу | Вылічаныя | | | | | Грудзей | Перад пясьці | Пясьці | Скакальнае суставы | Плюсны | |
| Жарабкі | 1 | 13,2 | 14,7 | 126 | 126,4 | 29 | 54 | 137 | 25,8 | 16,7 | 33,7 | 18 | 21 |
| | 2 | 16.4 | 17,8 | 134 | 137 | 33 | 57 | 151 | 27 | 18 | 34 | 19,5 | 32 |
| | 3 | 20,8 | 21,7 | 139 | 141,4 | 34,7 | 57,5 | 156,4 | 28,6 | 18 | 34,3 | 18,5 | 22 |
| | 4—16 | 22,8 | 22,5 | 143 | 149,9 | 35,7 | 61,4 | 157,5 | 30 | 19 | 38 | 22 | 8 |
| Кабылы | 1 | 13 | 13,3 | 127 | 130 | 31 | 54 | 136 | 25,5 | 17 | 33,2 | 18 | 18 |
| | 2 | 18,2 | 19 | 137 | 140 | 32,4 | 58 | 154 | 27,2 | 17,4 | 35 | 19 | 23 |
| | 3 | 19 | 19,5 | 138 | 140,6 | 32,3 | 57,3 | 152 | 26,8 | 17,2 | 35,2 | 18,6 | 22 |
| | 4—16 | 21,3 | 22 | 139,5 | 148,3 | 34,4 | 61 | 163 | 28 | 18 | 34,3 | 19 | 148 |
| | 17 і вышэй | 22,7 | 22 | 138 | 146 | 34 | 58 | 164 | 27,6 | 17 | 35,7 | 20 | 14 |

Дзеля ацэнкі экстэр'ерных асаблівасьцяў коняй Мазырскае акругі, мы ў табл. 28 прыводзім тыя самыя 5 індэксаў складу цела, якімі мы карысталіся пры ацэнцы коняй Менскае акругі. З параўнаныя гэтых індэксаў з такімі самымі індэксамі дзеля коняй Самахвалавіцкага і Барысаўскага раёнаў, а таксама з супастаўленьня трох галоўнейшых прамераў

гэтых груп коняй, выяўляецца тое месца, якое займае Мазырскі конь сярод іншых па тыпу складу свайго цела.

Табл. 28. Індэксы, якія характарызуюць склад цела кабыл (4—16 гадоў).

| Назва коняй | Жыв. вага ў пудох | Вышыня ў загрыўку | Даўжыня тулава | Абхват грудзэй | Каэфіц. цяжкавважасьці | Тое самае па формуле Барона | Стасунак да вышыні загрыўка: Даўжыні тулава | Абхвату пясьці | Шырыні грудзей |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мазырскі . . . . . . . | 22,0 | 139,5 | 148,3 | 163 | 133 | 1,904 | 1,063 | 0,129 | 0,246 |
| Барысаўскі . . . . . . | 23,2 | 139,0 | 152 | 164 | 142 | 1,935 | 1,093 | 0,129 | 0,245 |
| Самахвалавіцкі . . . . | 33,3 | 154 | 170 | 185 | 150 | 2,225 | 1,104 | 0,136 | 0,275 |

З супастаўленьня гэтых даных відаць, што Мазырскі конь па вышыні загрыўку ня ніжэй, чымся конь Барысаўскага раёну, па разьвіцьцю грудзей ён таксама ня ўступае Барысаўскаму каню, ва ўсіх жа іншых адносінах,—па жывой разе, даўжыні тулава і каэфіцыэнту цяжкаважасьці, Мазырскі конь горшы, чымся конь Барысаўскага раёну, які, як мы бачылі вышэй, зьяўляецца горшым сярод коняй іншых раёнаў Менскае акругі. З канём Самахвалавіцкага раёну Мазырскі конь ня можа ўжо раўняцца ні ў якіх адносінах.

Розьніца паміж Мазырскім і Менскім канём па жывой вазе выяўляецца яшчэ больш, калі ўсю масу коняй разьбіць на ваговыя групы, як гэта відаць з табл. 29.

Табл. 26. Разьмеркаваньне коняй Мазырскае акругі па жывой вазе.

| Узрост ў гадох | Кабылы (пудоў): да 16 | 17—20 | 21—25 | 26—30 | 31—35 | 36—40 | 40 і звыш | Жарабкі (пудоў): да 16 | 17—20 | 21—25 | 26—30 | 31—35 | 36—40 | 40 і звыш |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 16 | 3 | — | — | — | — | — | 16 | 4 | — | — | — | — | — |
| 2 | 7 | 10 | 8 | — | — | — | — | 15 | 14 | 2 | 1 | — | — | — |
| 3 | 6 | 10 | 4 | 2 | — | — | — | 5 | 6 | 8 | 3 | — | — | — |
| 4—16 | 19 | 55 | 22 | 4 | — | — | — | — | 4 | 1 | 2 | 1 | — | — |
| 17 і больш | — | 7 | 9 | 3 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

Калі цяпер ваговыя групы коняй працоўнага ўзросту (4 гады і старэй) прадставіць у процантных стасунках, дык атрымаем наступны шэраг лічбаў: да 16 пудоў—15.6%; 17—20 п.—54,1%; 21—25 п.—21,3%; 26—30 п.—7,3%; 31—35 п. 1,7%, г. ё. ў Мазырскай акрузе галоўная маса коняй працоўнага узросту, да 70% усяго складу, мае жывую вагу

ад 16 да 20 пудоў. З даных табл. 20 можна бачыць, наколькі ў гэтых адносінах Менская акруга пераважае Мазырскую.

Вельмі нявыгодна будзе дзеля Мазырскае акругі і параўнаньне яе з Менскай па вышыні ў загрыўку коняй працоўнага ўзросту, як гэта відаць з даных табліцы 30 і табл. 17.

Табл. 30. Вышыня ў загрыўку дарослых коняй (4—16 гад. і старэй) Мазырскае акр.

| Кабылы | | | Жарабкі | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Маламеркі (да 1 арш. 14 вяршк.) | Ад 1 ар. 14 в. да 2-х аршын | Ад 2-х аршын і вышэй | Маламеркі (да 1 арш. 14 вяршк.) | Ад 1 арш. 14 вяршк. да 2-а арш. | Ад 2-х арш. і вышэй |
| 41 | 67 | 44 | 1 | 4 | 5 |
| 27% | 44% | 29% | 10% | 50% | 59% |

Але калі гэтыя процантныя стасункі параўняць з такімі ж стасункамі гэтых жа груп коняй у пэрыяды двух апошніх перад—ваенных перапісаў у раёне Мазырскага павету, які, у значнай ступені, адпавядае Мазырскай акрузе, дык малюнак атрымаецца ўжо не такі бязрадасны, як гэта відаць з табл. 31.

Табл. 31 Параўнаньне вышыні коняй працоўнага ўзросту ў Мазырскім павеце за 1900—12 гг. і Мазырскай акрузе за 1927 г. (агульны лік кабыл і жарабкоў)

| Гады | Маламеркі | Ад 1 арш. 14 в. да 2-х арш. | Ад 2-х аршын і вышэй |
|---|---|---|---|
| 1927 | 64,2 | 32,70 | 3,1 |
| 1912 | 93,0 | 5,5 | 1,4 |
| 1900 | 25,0 | 43,9 | 30,2 |

Апошняя табліца паказвае надзвычайна моцнае ўзбуйненьне Мазырскага каня ў пасьляваенны пэрыяд, гэта тым больш варт адзначыць, што апошнія 12 гадоў перад вайной на тэрыторыі сучаснае Мазырскае акругі назіралася вельмі моцнае здрабненьне каня, цяпер жа працэс узбуйненьня яго ідзе шмат інтэнсыўней, чымся такі самы працэс у Менскай акрузе.

Разьмеркаваньне Мазырскіх коняй па масьцях выяўлена ў табл. 32.

Табл. 32. Разьмеркаваньне Мазырскіх коняй мясцовае пароды па масьцях.

| Масьці | Гнедая | Рыжая | Шэрая | Вараная | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Кабылы . . | 94 | 48 | 36 | 27 | 12 |
| Жарабкі . . | 39 | 16 | 20 | 16 | 6 |
| Усяго . . . | 108 | 64 | 56 | 43 | 18 |
| У %% . . | 36,3 | 22,5 | 19,7 | 15,1 | 6,4 |

З параўнаньня гэтае табліцы з табл. 21 можна бачыць, што адносна пераважнае масьці Мазырскія коні падобныя да Менскіх: на першым месцы, як найбольш распаўсюджаная і тамака і тутака стаіць гнедая масьць, колькасьць жа рыжых коняй у Мазырскай акрузе большая, чымся ў Менскай.

**Гомельская акруга**. Гомельская акруга была абсьледвана ў адносінах да каняводзтва адначасова з Менскай і Мазырскай. Абсьледваньнем было абхоплена ў 5 раёнах 18 паселішчаў, у якіх было сабрана 753 індывідуальных картак Пры абсьледваньні складаліся і пасёлкавыя карткі, але яны таксама, як і індывідуальныя, складаліся з такімі вялікімі пропускамі, што выявіць па іх агульны малюнак каняводзтва акругі немагчыма.

Па характару коняй, якіх разводзяць, паселішчы разьмяркоўваюцца так:

| | | |
|---|---|---|
| толькі простыя коні разводзяцца ў | 10 | паселішчах; |
| простыя і завадзкія . . . . . . | 3 | „ |
| палепшаныя . . . . . . . . . . | 3 | „ |
| мэтысы мясц. каня з цяжкавозам . | 1 | „ |
| „ „ з рысаком і цяжкавозам | 1 | „ |

Адносна мэты гадоўлі коня было адзначана, што

коні разводзяцца толькі дзеля працы ў 9 паселішчах.
„ „ „ „ і на продаж у 8 паселішчах

Гэтыя зьвесткі адпавядаюць і даным аб пахаджэньні коняй,—так у 3-х паселішчах было ўказана, што насельніцтва карыстаецца куплёнымі коньмі, у 1-м паселішчы—сваімі выгадаванымі і ў 14 паселішчах—і выгадаванымі і куплёнымі ў роўнай меры.

З прычыны таго, што Гомельскі селянін вельмі часта куплі каня аддае перавагу перад гадоўляй, у Гомельскай акрузе досыць моцна пашыраны і гандаль коньмі, так у 13 паселішчах было адзначана, што коні купляюцца сялянамі на мясцовым рынку і ў 4-х паселішчах—на мясцовым рынку і на Украйне, прычым амаль аднагалосна адзначалася, што найбольшым попытам карыстаюцца простыя коні працоўнага гатунку (толькі ў 2-х выпадках было ўказана на пераважны выбар мэтысаў мясцовага каня з рысаком альбо з цяжкавозам). Аднак у тых выпадках, калі пытаньне ішло аб выбары не працоўнага каня, а вытворніка, у большасьці паселішчаў выказваліся альбо за рысака альбо за цяжкавоза, а ў 5 паселішчах нават выказалі пэўнае патрабаваньне на „лёгкага цяжкавоза“. На недахоп племянных вытворнікаў былі скаргі ў 16 паселішчах (па 2-х паселішчах няма даных). Адносна характару маючыхся вытворнікаў паселішчы розьмяркоўваюцца так:

карыстаюцца толькі палявікамі ў 2-х паселішчах;
вытворнікамі завадзкое стайні—у 5 паселішчах і толькі
прыватна-ўласьніцкімі вытворнікамі ў 6 паселішчах.

Плата за злучку з дзяржаўнымі жарабкамі ў сярэднім раўняецца 2 руб. 50 кап.; злучка адбываецца, большай часткай, увесну (у 13 паселішчах); радзей увесну і ўлетку (у 5 паселішчах).

Вельмі моцна зьмяняецца ўзрост, у якім кабылы ідуць у злучку; так у адным паселішчы было ўказана, што большай часткі кабылы злучаюцца ў узросьце да 2,5 гадоў; у трох паселішчах—ад 2,5 да 3-х гадоў і ў 10 паселішчах ад 3-х да 4-х гадоў, а ў трох паселішчах—нават старэй

4-х гадоў. Таксама моцна зьмяняецца па паселішчах 1 узрост, у якім коні ідуць у працу, як гэта відаць з табл. 33.

Табл. 33. Коні мясцовае пароды ідуць у працу:

| Узрост у гадох | 2 | 2—3 | 3—4 | 4 і больш |
|---|---|---|---|---|
| Лік паселішчаў | 2 | 6 | 9 | 1 |

Працяжнасьць сысуновага пэрыяду ў Гомельскай акрузе, як відаць, большая, чымся ў Менскай, аб чым сьведчаць даныя табл. 34.

Табл. 34. Працяжнасьць сысуновага пэрыяду ў месяцах:

| Лік месяцаў | Да 5 мес. | 5—6 | 6—7 | 7—8 | 8—9 | больш. 9 | Да адбою |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік паселішчаў | — | — | 1 | 4 | 5 | — | 8 |

Працяжнасьць пэрыяду выпасу ва ўсіх паселішчах указана тая самая: ад сьнегу да сьнегу; спосаб выпасу, як відаць, таксама аднолькавы: у 16 паселішчах было ўказана, што жарабчыкі пасьвяцца разам з маткамі (па 2-х паселішчах зьвестак ня маецца).

Выявіць інтэнсыўнасьць кармленьня коняй ня ўдалося, з прычыны недастатковага ліку паказаньняў і непаўнаты зьвестак.

Экстэр'ерныя асаблівасьці коняй Гомельскае акругі прадстаўлены табл. 35.

Табл. 35. Прамеры жарабкоў і кабыл мясцовае пароды ў Гомельской акрузе.

| Род | Узрост у гадох | Жывая вага: Па запісу | Жывая вага: Вылічаная | Вышыня ў загрыўку | Даўжыня тулава | Шырыня грудзей | Глыбіня грудзей | Абхват: Грудзей | Абхват: Запясьці | Абхват: Пясьці | Абхват: Скакальн. суставы | Абхват: Плюсны | Лік жывёлаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жарабкі | 1 | 15,2 | 16 | 132 | 130 | 32 | 57 | 144 | 27 | 17 | 36 | 18 | 17 |
| | 2 | 18 | 18 | 135 | 135,5 | 33 | 60 | 153 | 28 | 18 | 36,5 | 20 | 61 |
| | 3 | 18 | 19 | 135 | 136 | 33 | 59 | 153 | 28 | 18 | 35,5 | 19 | 58 |
| | 4—16 | 20 | 21,5 | 137,5 | 140 | 35 | 61 | 160 | 30 | 18 | 37 | 20 | 29 |
| Кабылы | 1 | 14 | 16 | 129 | 130 | 31 | 56,5 | 146 | 26 | 17 | 34,5 | 18 | 17 |
| | 2 | 16,5 | 18,5 | 132 | 134 | 32,5 | 58.5 | 152,5 | 26,5 | 17 | 34,5 | 18,5 | 67 |
| | 3 | 18 | 20.5 | 135 | 138 | 33 | 60 | 158 | 27 | 17,5 | 35,5 | 19 | 49 |
| | 4—16 | 18,5 | 20,5 | 133 | 138,5 | 34 | 60 | 157 | 26,5 | 17 | 35 | 19 | 411 |
| | 17 і вышэй | 18 | 19 | 132 | 145 | 35 | 62 | 155 | 28 | 18 | 37,5 | 19,5 | 3 |

Дзеля таго, каб зрабіць параўнальную ацэнку складу цела каня Гомельскае акругі, мы тутака прывядзем даныя з табл. 28, дапоўніўшы іх адпаведнымі лікамі, якія характарызуюць Гомельскага каня.

Табл. 36. Індэксы, якія характарызуюць склад цела кабыл (4—16 гад.)

| | Жывая вага ў пудох | Вышыня ў загрыўку | Даўжыня тулава | Абхват грудзей | Каэфіцыэнт цяжкаважасьці | Тое самае па формуле Барона | Стасунак да вышыні ў загрыўку: Даўжыні тулава | Абхвата пясьця | Шырыні грудзей |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гомельскі | 20,5 | 133 | 138,5 | 157 | 140 | 1,853 | 1,041 | 0,128 | 0,255 |
| Мазырскі | 22 | 139,5 | 148,3 | 163 | 133 | 1,904 | 1,063 | 0,129 | 0,246 |
| Бабруйскі | 23,2 | 139,0 | 152 | 164 | 142 | 1,935 | 1,093 | 0,129 | 245 |

З даных гэтае табліцы відаць, што Гомельскі конь, які зьяўляецца самым нізкім у загрыўку, мае, разам з тым, і найбольш кароткае тулава і найменшы абхват грудзей; гэты конь зьяўляецца найгоршым у параўнаньні з коньмі Мазырскае акругі і Барысаўскага раёна, які мае, як мы ўказалі раней, найбольш слабых коняй у параўнаньні з іншымі раёнамі Менскае акругі. Каэфіцыэнт цяжкаважасьці паказвае, што па тыпу складу цела гэты конь больш важкі, чымся Мазырскі, але па моцы цягі ў плячах, аб чым гаворыць паказальнік, выведзены па формуле Барона, ён слабей і Мазырскага і Барысаўскага каня. Індэкс, які вызначае стасунак даўжыні тулава да вышыні загрыўка і які зьяўляецца вельмі добрым паказальнікам ступені інфантыльнасьці, таксама гаворыць не ў карысьць гэтага каня. Наогул, па большасьці паказальнікаў, гэты конь характарызуецца, як конь самы звычайны.

Разьбіўшы працоўных коняй Гомельскае акругі на групы па вышыні загрыўку, прынятыя пры вайскова-конскіх перапісах, мы атрымаем разьмеркаваньне іх, згодна табл. 37.

Табл. 38. Вышыня коняй працоўнага ўзросту па вайскова-конскіх перапісах 1900—1912 гг.:

| Кабылы: Маламеркі да 1 арш. 14 вер. | Кабылы: Ад 1 арш. 14 вяршк. да 2 ар. | Кабылы: Ад 2-х арш. і вышэй | Жарабкі: Маламеркі ад 1 аршын 14 вяршк. | Жарабкі: Ад 1 арш. 14 в. да 2-х аршын | Жарабкі: Ад 2-х арш. і вышэй |
|---|---|---|---|---|---|
| 215 | 161 | 35 | 12 | 7 | 10 |
| 52,31% | 39,17% | 8,52% | 41,38% | 24,14% | 34,48% |

Калі мы параўняем гэтыя процантныя стасункі з тымі, якія назіраліся паміж указанымі групамі коняй на тэрыторыі сучаснае Гомельскае акругі (б. Гомельскага і Рэчыцкага паветаў) у даваенныя часы і якія былі зафіксаваны вайскова-конскімі перапісамі, дык працэс узбуйненьня Гомельскага каня за апошнія 15 гадоў дзеля нас зробіцца відавочным. Даныя табл. 38 дазваляюць правесьці ўказанае параўнаньне.

Табл. 37. **Вышыня ў загрыўку дарослых коняй (4—16 гадоў), Гомельскае акругі.**

| Паветы | Гады | Маламеркі да 1 арш. 14 вяршк. | Ад 1 арш. 14 вяршк. да 2-х арш. | Ад 2-х арш. і вышэй |
|---|---|---|---|---|
| Гомельскі . . | 1900 | 73,5 | 24,2 | 2,3 |
| | 1912 | 74,3 | 19,3 | 6,4 |
| Рэчыцкі . . . | 1900 | 75,2 | 23,3 | 1,5 |
| | 1912 | 75,7 | 20,5 | 3,8 |

Аднак, калі мы параўняем даныя апошніх дзьвёх табліц з такімі ж данымі па Менскай і Мазырскай акругах (гл. табл. 30 і 31, 17 і 18), дык дзеля нас стане зусім відавочнай параўнаўчая павольнасьць указанага працэсу ў Гомельскай акрузе. Гэтае параўнаньне ўзмацніць тое нявыгоднае дзеля каня Гомельскае акругі ўражаньне, якое складаецца дзеля яго па даных табл. 33, якія вызначаюць адносную вартасьць гэтага каня, як рухавіка.

Пэўна Гомельскі конь ня толькі горш каня Менскае і Мазырскае акруг, але і працэс палепшаньня яго ідзе больш марудна, чымся палепшаньне каня дзьвёх апошніх акруг. Матар'ялы абсьледваньня НКЗ не дазваляюць выявіць прычыны, якія выклікаюць гэтую розьніцу, прычыны, якія знаходзяцца, бязумоўна, ва ўмовах сельскае гаспадаркі вывучаемых акруг; ня ведаючы ж гэтых прычын, нельга указаць і тыя канкрэтныя мерапрыемствы, якія дапамаглі бы паскорыць працэс палепшаньня каня.

За дапамогу па тэхнічнаму кіраваньню пры апрацоўцы матар'ялу прынашу сваю падзяку вучонаму аграному В. О. Гурэвічу.

*М. Пелехаў.*